**ПАПКОВІЧ УЛАДЗІМІР АНТОНАВІЧ**
**НАРАДЗІЎСЯ У 1935 ГОДЗЕ У в. ДВАРЭЦ ВІЛЕЙСКАГА РАЁНА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ.**
**ЗАКОНЧЫЎ У 1958 ГОДЗЕ МІНСКІ ПЕДАГАГІЧНЫ ІНСТЫТУТ ЗАМЕЖНЫХ МОЎ.**
**ПРАЦУЕ ВЫКЛАДЧЫКАМ НЯМЕЦКАЙ МОВЫ У ВІЦЕБСКІМ ІНДУСТРЫЯЛЬНЫМ ТЭХНІКУМЕ.**
**ДРУКАВАЎСЯ Ў РЭСПУБЛІКАНСКІМ ДРУКУ, У ЗБОРНІКУ «ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ-76».**

* * *

У снягах ці ліўнямі абмытую,
Вечарам ці з ранішняга сну,
Я люблю цябе, таленавітую,
Я люблю на ўсё жыццё адну.

У хвіліну светлую і сумную
Ад цябе нічога не ўтаю.
Я люблю цябе, маю разумную
І высакародную маю.

Словы гавару табе высокія,
Хоць з маленства не прыхільнік іх.
Я люблю цябе, блакітнавокую,
Самую прыгожую з усіх.

Гэты верш, як песню спавядальную,
Я пяю, бо я цябе люблю —
Хлебаробскую, індустрыяльную,
Беларусь —
Радзімую зямлю.

* * *

Зноў прыходзяць трывожныя сны,
Памяць зноў у маленства адчынена
Мы з табою — дзеці вайны,
Незабыўнай Вялікай Айчыннай.

Хоць мы сталі бацькамі даўно
І дзяцей на каленях гушкаем,
Успаміны гудуць вайной,
Б'юцца ў сэрца параненай птушкаю

* * *

Ад дзядоў маіх і прадзедаў,
Ад людзей у роднай вёсцы
Мне святое слова дадзена,
Слова нечуванай моцы.

Гэтым словам раны гояцца,
Гэта слова — меч і рада,
Сілу прыдае у бойцы
І ратуе ад няпраўды.

З ім прайду любыя вёрсты я,
І праз леты, і праз зімы.
Слова шчырае і простае,
Запаветнае —
Радзіма.

## УРОК ГІСТОРЫІ

Ніхто не забыты, нішто не забыта...
Ляжаць у брацкіх магіл забітыя,
І вецер, асенні, халодны і слізкі,
Шліфуе старэнькія абеліскі.

А неба ўсё плача, не выплача гора,
Як маці, што страціла сына учора.
Настаўніца клас свой нязладжаным строем
Вядзе да магілы, дзе спяць героі.

Расказвае, сшытак схаваўшы пацёрты,
Пра сорак першы і сорак чацвёрты.
Гаворыць упэўнена, пераканана —
Сама камісарам была ў партызанах.

Бабка, праходзячы, стала воддаль,
І дзядзька вусаты спыніўся з падводай.
Слухаюць разам, стрымаўшы дыханне,
Ніхто не шуміць і не лезе з пытаннем.

Слухаюць хлопцы, прымоўклі дзяўчаты...
Вось тут пахаваны нечыя таты,
Што лёс вырашалі сваёй краіны.

Маўчаць парушальнікі дысцыпліны,
І тояць слязінку ўжо некаторыя...

Ідзе ў дзесятым урок гісторыі.

* * *

Паэтычныя «ахі» і «охі»
Мне, папраўдзе, абрыдлі даўно.
Буйны вецер вялікай эпохі
Расчыняе маё акно.

Хай другія для ўласнай уцехі
Слоў стракатых плятуць вянкі,—
Гулкім рытмам гарачага цэху
Я напоўню свае радкі.

Будуць словы кіпець і плавіцца,
І у сэрцах людскіх не раз
На вякі і далей праславіцца
Мой настаўнік —
Рабочы клас.

**СВЕДКА**

Запрашаў у чысцейшы пакой:
«Адпачніце, ў машыне натрэсла».
І адной, уцалелай, рукой
Пыл сціраў, падстаўляючы крэсла.

Частаваў, як найлепшых гасцей:
«Многа нельга, а кроплю — не шкодзіць.
Мы жывём у вёсцы прасцей:
У магазін не часта ходзім.

Хлеб і сала — усё задарма...»
Усміхнуўся з сялянскай хітрынкай.
Спахмурнеў:
«Вось дажджу няма,
Смягне поле,
Зямля, як скарынка».

Не спяшаючыся падліваў,
Адстаўляў недапітую чарку,
Быт калгасны аналізаваў,
Як уласную гаспадарку.

Раптам змоўк, нам у вочы зірнуў,
Шклянку сціснуў рукою адзінай.
«Вы ж прыехалі, каб пра вайну
Запісаць ад мяне успаміны...

Будзь пракляты такі ўспамін,
Што і ў сне не дае спакою!
З пуні ў жыта я выпаўз адзін
З перабітаю куляй рукою...

Чым мне той успамін закрыць?
З цэлай вёскі —
Адзін на свеце...
Пуня ў сэрцы і сёння гарыць,
І галосяць жанчыны і дзеці...»

Жонка ў хату прыйшла і ўнук,

Носік-гузік, з ільну валоскі.
Не сказаў больш ні слова Франук,
Сведка вечна полымнай вёскі.

* * *

Дарога наперадзе — трэба ісці,
Хоць цяжка бывае на ўздыме.
Я веру ў свае магчымасці,
Як веру сваёй Радзіме.

Я — для яе,
Яна — для мяне.
Крочым — не размінуцца.
Толькі як старасць спіну сагне,
Стану,
Каб азірнуцца.

І неба блакіт,
І песні ў палях,
І сонейка позірк лагодны —
Усё забяру ў апошні свой шлях,
Як вобраз навекі родны.

## ЛЯ БРАЦКАЙ МАГІЛЫ

Уцалеўшы з жорсткага агню,
З полымя, што нас недапаліла,
Мы прыходзім слухаць цішыню,
Цішыню над брацкаю магілай...

* * *

Празрыста-белыя снягі
Унепрыкметку пашарэлі,
І далягляды пашырэлі —
Зямля збаўляецца тугі.

Спрабуе голас сакавік,
Няўпэўнена і ненапеўна,
Як малады гарэза пеўнік
Зрываецца на хрыплы крык.

Але шпарчэй, ямчэй, званчэй
Капеж штодзень ля вокан звоніць,
І ўладна вабіць у прадонне
Мяне вясна тваіх вачэй.

**УСПАМІН МАЛЕНСТВА**

Многагалосае рэха
Радасць маю паўторыць:
Сонца — бліскучую рэхву
Качу па блакітнай прасторы.

Прамень у руцэ трымаю,
Гнуткі і залацісты.
Дарога, як шнур, прамая
Смяецца вясёлкайквяцістай.

Ды нечакана сарвалася
Кольца маё... пакацілася,
За хмарку малую схавалася
І ў прорву, як мячык, звалілася.

Дамоў не іду да світання:
Хто мне яго дастане?

* * *

Самыя лепшыя вершы —
Аб маці, аб любай Радзіме,
Аб чыстым каханні першым —
Прыходзяць а першай гадзіне.

Як толькі ў апошніх абдымках
Стрэлкі (ці дні) развітаюцца,
Нячутна, як з неба сняжынкі,
Думкі ка мне злятаюцца.

Думкі заўжды гатовыя
Чыстай паперы даверыцца,
Каб потым нягучным словам
Крануць чыё-небудзь сэрца.

## БРЫГАДЗІР ЛЁДЗЯ

Да хуткасці ў вёсцы прывыклі,
Трымайся — зямля перакуліцца.
Дзяўчына на матацыкле
Імчыць па вясковай вуліцы.

Востра тырчаць калені,
Блішчыць сінтэтычная куртка.
Дзяўчына імчыць у праўленне
На ранішнюю пяцімінутку.

«Ай Лёдзя, ай хуліганка,
Не лепш чым блазнюк каторы...»
Жанчыны зыходзяць з ганкаў,
Таропка ідуць да канторы.

А там ужо прымаўкаюць
І з жартамі, і задзіры.
Стаяць і з павагай чакаюць
З нарадамі брыгадзіра.

Яна ж падыходзіць няспешна,
Прыгожая — глянуць люба.
І кажа з лагоднай усмешкай:
«На бульбу, жанчынкі, на бульбу»

Сказала нягучна, мала,
А бачыш — не трэба болей.
«Каня» свайго асядлала,
Пчалой празвінела ў полі.

* * *

Вятры мяне як след праветрылі,
Дажджы прамылі да касцей.
Мая скарбонка з кіламетрамі
Бесперапынна ўсё расце.

Пакаштаваў, чаго хацелася,
Жыццё паспрабаваў на зуб.
Мне сумавалася і пелася,
І ўпотайкі глытаў слязу.

Я з працай сябраваў усякаю,
Мне гонар грудзі надзімаў,
Як «няньчыўся» я з жалязякаю
Ці краж ласкава абдымаў.

«Ах ты ядроная, ты сімпатычная.
Шаптаў якой-небудзь сасне.
І праца, цяжкая, фізічная,
Не стала чорнай для мяне.

І прыпарошаны завеяю,
Мой шлях далей, далей бяжыць.
Турбуе клопат, ці сумею я
Пра працу шчыры спеў зладжыць

## ПРАЗ 30 ГОД

Адбыўся цуд. Аднойчы шэрым ранкам,
Калі на рэчцы рушыў крыгаход,
Знаёма ботамі патупаўшы на ганку,
Прыйшоў салдат з вайны —
Праз трыццаць год.

І сеў за стол ён, і ўсміхнуўся горка,
Здалося жонцы: на шчацэ сляза.
Гаворку не пачаў.
Дастаў кісет з махоркай,
А ёй жа рупіла так многа расказаць.

Як ад паштаркі не ўзяла тады павестку,
Бо думала, што ў ёй уся бяда.
Як не паверыла, што ён прапаў без вестак.
Дзе гэта бачана — жывы каб прападаў?

І як зімой начамі ў гэтай хаце
Ягоны крок ёй чуўся з-за акна.
Тачыў дакор: не нажылі дзіцяці,
Нібыта ў тым была яе віна.

І як прыходзілі — у сваты і не ў сваты.
Паказвала, дзе бог,
А дзе парог.
А як інакш?
Ён ставіў гэту хату
І вернецца ў яе.
Прапасці ён не мог.

І вось прыйшоў.
У шынялі салдата.
Такі, як і пайшоў: прыгожы, малады
Прачнулася. Адна.
Маўчыць старая хата.
І плачуць за акном жалобна правады

## ДОМА

Каўбаса пахне дымам ядлоўцу,
Добра грэе нутро пяршак.
У галактыцы аднавяскоўцаў
Галавы маёй круціцца шар.

«Піце, ешце, любыя госцейкі!
Хлеб, суседзейка, сам наразай».
А чаму ж у самой Антосіхі
Перамоклі вочы ў слязах?

Ты даўно мяне, маці, чакала,
Што ні дзень пазірала ў акно.
І цяпер пасярод кагала
Ты адна засталася зноў.

Хай гаворка густая цэдзіцца.
Дай я ціха цябе прытулю.
Хочаш — кубкам Вялікай Мядзведзіцы
Я вадзіцы табе засілю?..

* * *

Нянькі мяне не няньчылі,
Соладка ў шчокі не чмокалі,
Слёз маіх дома не бачылі,
Над вокам падбітым не войкалі.

Волю маю выкоўвалі
Канфлікты з цялём ды свінкаю —
Нас разам, бывала, выхоўвалі
Бярозавай хварасцінкаю.

Бязбацькаўшчына гадавала,
Не ведаючы педнавукі,
Ўшчувала і тут жа давала
Апошні акрайчык у рукі.

Быў лёс мой сем раз перакроены,
Не ў ладзе з ніякай логікай.
Іду па жыцці я, ўзброены
Удовінай педагогікай.

## СПОВЕДЗЬ

У чалавека любога свая аповесць —
І ў Напалеона, і ў дзядзькі Данілы.
Іду да людзей я сёння на споведзь,
Як бабка калісь да папа хадзіла.

Бабка, бывала, залезшы пад рызу,
Споведзь трымае, а ўсё ж хітруе —
Не кажа, што ўпотай кляла і грызла
Госпада-бога — а як не даруе?

Праўду сказаць — гэта цяжка, канечне
Не кожнае слова бярэцца на веру.
Я ўсе свае думкі, святыя і грэшныя,
Адну за адной кладу на паперу.

Чытайце, людзі, маю аповесць,
Лайце, хваліце, як лепей, райце.
Толькі прашу вас: не жорстка карайце
Я ж не на допыт ішоў,
А на споведзь.

## ВЕТЭРАНЫ

Гады так-сяк зарубцавалі раны,
І гнеў патух у выцвілых вачах.
Нязвычны гэты тытул: ветэраны,
Як гімнасцёрка не з свайго пляча.

Ён як-ніяк, а напамін пра старасць,
Хоць паважаны, ды нязваны госць.
А ветэранам хочацца памарыць,
Хоць на дзянёк вярнуцца ў маладосць.

Прыпомніць тых, хто сёння не прыехаў,
Застаўся назаўсёды малады,
Імёны іх, як баравое рэха,
Яны, жывыя, чуюць праз гады.

Прыпомніць кулі, голад і марозы,
Апошнюю цыгарку на дваіх.
Цякуць па шчоках ветэранаў слёзы,
І ветэраны не саромеюцца іх.

## ВЕРШ ПРА ЗАБІТАГА ПАРТЫЗАНА

Прывезлі яго на падводзе,
Спаўзала салома з драбін.
Раз-пораз на дрогкай дарозе
Туліўся к яму карабін.

Туліўся, чакаў абуджэння,
Не верыў у сон сярод дня.
«Мама, прыехаў Жэня!» —
Пазналі дзеці каня.

Цокаў Сівы падковамі,
Бядою ў сэрца цаляў.
«Сыночак!» — адзіным словам
Запоўнілася зямля.

* * *

Абяцала чакаць.
Перад самай вайной
Ён пайшоў у страі, сваёй выпраўкай горды
Праз паўгода дзяўчына была сувязной
Паміж лесам далёкім і спаленым горадам

Па калена быў снег.
Пахла блізкай вясной,
На бярозках лядзяшкі звінелі, як пацеркі
А пароль быў вядомы ёй толькі адной,
Ёй ды дзеду на явачнай, на Пескавацікy[1].

Вось і хатка яго над азяблай Дзвіной,
Захісталіся цені за хаткай і лазняю.
Позна...
Хруснулі рукі за гнуткай спіной,
У СД павязлі разам з іншымі вязнямі.

Быў пякучы мароз.
Біў балюча бізун.
Вар'яцеў лейтэнант:
«Гавары, раз папалася!»
Адганяючы думкі, змахнула слязу,
Ды вярталася думка:
«Не дачакалася».

---

[1] П е с к а в а ц і к — раён у Віцебску.

* * *
Да раніцы міргалі бліскавіцы
І з гулкім трэскам білі перуны.
Дачка мая не ведае вайны,
Таму і навальніцы не баіцца.

А я баюся. Трыццаць з гакам год
Не йдзе мне з памяці
Той дзень закляты:
Раўла жывёла, і гарэлі хаты,
І з гарнізона вухкаў мінамёт.

Плылі па небе чорныя дымы,
І ўсё ляцела, грукала, траслося.
А мама мне шаптала: «Ты не бойся,
Не бойся, дзетка, гэта гром грыміць».

**СМЕРЦЬ ПАДПОЛЬШЧЫЦЫ**

Не здалася... а сілы няма,
Захлынулася ў немачным стогне.
Засталіся дзве літары «Ма...»
На халодным, аслізлым бетоне.

Шар зямны пакаціўся з-пад ног,
Нехта ў сэрца балючае выцяў.
А ў вачах — толькі поле адно
І цвітуць васількі — у жыце.

Як бяскрайна палеткі ляжаць,
Залатымі гараць каласамі!
І жанчыны выходзяць жаць,
Маладымі пяюць галасамі.

Мама родная! Мамачка! Ма...
Я пайду з табой жыта жаці!..
...Ды не скажа дзяўчыне турма,
Што даўно расстраляна маці.

Не падасць на спагаду рукі,
Не прытуліць да сэрца блізка...
...Летам дзеці кладуць васількі
Да абеліскаў.

* * *

Мы моўчкі з табой пасядзім за сталом,
Каб тых, хто заснуў, не будзіць.
Маленства, якога у нас не было,
З намі няхай пасядзіць.

У вёску, адвыклую ад галасоў,
Ад гоману дзетвары,
Мы сталымі выйшлі з блакадных лясоў,
Апухлыя ад машкары.

Ад нашай яды —
Пустой лебяды —
Хадзіць амаль не маглі.
Ды бацькавых ботаў салдацкіх сляды
Нас цвёрда наперад вялі.

## САМАКРЫТЫЧНАЯ ПАРАДА

Не спяшацца і не мітусіцца,
Не штурхаць пад скабы, не прасіцца
На трыбуну з мудрай прапановай.
Ты мудрэц, і людзі не авечкі,
Патрывай, не лезь адразу ў спрэчкі —
Дорага прытрыманае слова.

Слушна кажуць: трэба слова ўзважыць,
Перш чым ім каго з размаху спляжыць.
Балбатнеш, а потым пнешся задам.
Заўтра ж сітуацыя другая:
«Ну, скажы хоць слова»,— вымагае.
Прамаўчыш — таксама ўсё не ладам.

* * *

Калі на сяўбе
Не верыш сабе —
Не псуй дарэмна
Зерне:
Зямля і насення
Не верне.

* * *
Удзірванела поле,
Пораслае лебядою.
Хто тое поле праполе,
Крынічнай палье вадою?

Заледзянела сэрца,
Як вокны зімовай дачы.
Сэрцу карціць сустрэцца
З іншым —
Спагадна-гарачым.

* * *

Сумняваюся не без падставы я
У карысці таго, што пішу.
Людзі робяць справы цікавыя,
Я ж душу сваю варушу.

Варушу, як патухлае вогнішча,
Што дажджы не паспелі заліць.
Можа, там вугалёк не заглох яшчэ,
Каб вялізны агонь распаліць.

## ПЕСНЯ

Ці дзе іду, ці што раблю,
Нібы званочак тонка звоніць:
Люблю яго, люблю, люблю,
І мне ніхто не забароніць.

Не адступлю, масты спалю,
Аддам усё, чым даражыла.
Люблю яго, люблю, люблю,
Я толькі гэтай марай жыва.

Сяброўкі кпяць, і я цярплю,
Што прыйдзе вечар — зноў адна я.
Люблю яго, люблю, люблю,
А ён, дурненькі, і не знае.

* * *

Там, дзе калісьці буяла трава,
Пусцілі на пашу статак.
— Колькі гадоў табе? — Сорак два.
— Траць памяркоўна астатак.

Сур'ёзны ўзрост — не навырост,
Гады разважанняў і працы.
Як пусціш цяпер іх наперахлёст —
Да скону ўжо не разабрацца.

* * *

Трывала трымаюся правіла:
Ад ласкі дабрэе і звер.
Жыццё мне гузоў наставіла
За гэты сялянскі давер.

Бывала, «дарадцы» з'яўляліся,
За шчырасць плацілі маной
І хітранька выскаляліся,
Стоячы за спіной.

Няўдалай гульнёй здавалася
Мне гэтая дробная злосць.
Як быццам дабро схавалася
І зараз гукне: «Я ёсць!»

Здагадка зрабілася вераю.
Наскрозь цяпер бачу гульню.
Усмешкаю,
Быццам сякераю,
Я адсякаю хлусню.

І хоць мне жыццё наставіла
Гузоў за сялянскі давер,
Трывала трымаюся правіла:
Ад ласкі дабрэе і звер.

* * *

Прыязджаю гады ў рады,
Як на сама вялікае свята,
На радзіму маю, туды,
Дзе чакае бацькоўская хата.

Прыпякае. Гудзе авадзень,
Да спацелага ліпне цела.
Дзецi ціха даюць «добры дзень»,
Адыходзяць да плота нясмела.

Незнаёмы.
Партфель — ого!
Ці не новы настаўнік-гісторык?
І цікуюць:
А да каго
Зверне гэты партфель на падворак?

І напружваюць бабкі зрок:
Можа, іхні Мішка ці Лёшка?
І на вулку, нібы незнарок,
Выбягаюць з вядром ці кошыкам.

Вочы рэжа смуга, як кастра,
Што пад восень плыла з загумення.
Сустракае ля брамкі сястра.
...Мама болей мяне не сустрэне.

**БАБУЛЯ**

У хлеве певень песню прагалёкаў,
Яшчэ адзін — з суседняга двара.
...Памёр стары,
Жывуць сыны далёка,
А ў вёсцы — сенакосная пара.

Бабуля борздзенька ўстае да сонца
І тупае старэчаю хадой.
Як воблака,
Кудзеліцца ў даёнцы
Гарачы і духмяны сырадой.

Цяпер ужо да ночы не прылегчы.
«Памру,— жартуе,— хопіць мне ляжаць»
Хапіць чаго ды і ў кантору бегчы:
Дадуць, казалі, сёння сенажаць.

Налье спачатку есці парасяткам,
Час да праўлення траціць недарма,
Мяркуе:
«Нехта скосіць за дзесятку,
А высушу паціху і сама».

Паўторыць тое ж самае ў канторы,
Сатрэ слязіну ўсохлым кулачком.
І ясна ўбачыць, як сыноў — пяцёра —
З дарогі
Поіць свежым малачком.

## НАВАЛЬНІЦА

На топкай сырой лугавіне
Хаваюцца колы па вось.
Вось-вось навальніца нахлыне,
Пакуль што збірае злосць.

Цяжкія варочае жорны,
Ганцоў рассылае ў бакі,
А хмары кудзеляцца чорна,
Як модныя парыкі.

«Но, чэрці!» —
Трывожныя коні
Пакрыліся пенай сівой.
«Дагонім, дагонім, дагонім!» —
Маланкі над галавой.

Затукалі кроплі таропка,
І ўсё патанула ў вадзе.
А воз мой —
Маленькая кропка
На свеце — няведама дзе.

## АПОШНІ ЗВАНОК

Апошні званок у школе
Звініць на падворку гучна.
Ён болем у сэрца коле
Настаўнікам болей, чым вучням.

Твараў і кветак букеты
Не ў згодзе ніяк са смуткам.
Праходзяць, як дожджык летам,
Дзявочыя слёзы хутка.

І спее ўжо ў сэрцах юнацкіх
Клопат надзённы самы:
А дзе яны — нашыя Брацкі?
А дзе яны — нашый БАМы?

Спяшаюцца — не спазніцца б.
Сёння або ніколі...
Яшчэ ім не раз прысніцца
Апошні званок у школе.

* * *

Быў час любіць
                    і піць віно,
Смяяцца,
          крыўдай захлынацца
Жыццём пракручана даўно
Кіно шматфарбнае —
                              юнацтва
Карціна спісана ў архіў,
Дзе памяць нема гаспадарыць
Нібы спіртное,—
                    на разліў,
Вяртае нам былое —
                              мары.
А рэгістрацыю падзей
Жыццё вядзе далей умела.
Жыву —
          часопіс мой ідзе,
Дакументальны,
Чорна-белы.

* * *

Быў нягеглы, нясмелы, няўдалы,
Сам сябе за памылку лічыў.
І жыццё яго жорстка кідала,
Таўхалі пад бакі даючы.

Ды аднойчы,
Зусім як у казцы,
Нешта ўспыхнула, быццам касцёр.
Скалануўся хлапец ад шчасця,
Нават вільгаць з-пад носа ўцёр.

І замёр...
          А яна глядзела
З-пад відушчых сваіх павек.
Хоць нягеглы яшчэ, нясмелы,
Нараджаўся ўжо чалавек.

* * *

Сустракаем былых сяброў
Выпадкова на людным праспекце.
Мімалётам:
«Здароў!» — «Здароў!»
Мімалётам:
«Як жонка? Дзеці?»

«Што не зойдзеш?» —
І позірк убок,
І падэшвы асфальт цярэбяць.
Кожны ў спешцы, як той калабок:
Прыпыніўся —
Зноў бегчы трэба.

І пабеглі...
«Бывай!» — «Бывай!»
Дзынькнуў келіх крыштальны — разбіўся.
Праглынуў аднаго трамвай,
У натоўпе другі згубіўся.

* * *

Сатлела, астыла вогнішча,
Лівень заліў вугалькі.
Як тваё новае прозвішча?
І муж твой — хто ён такі?

Не пешка, напэўна, а шышка?
Трэст «Рогі і капыты»?
Пухне ашчадная кніжка,
Паціху круглееш і ты.

Дочкі растуць.
Трывога
Большае дзень пры дні.
Глядзі ж, наказвай строга,
З паэтамі каб — ні-ні.

* * *

Май на парозе, а ў сэрцы — зіма.
Нядобра прарочаць прыкметы.
Перабалела ўсё —
Болей няма
Ні болю, ні волі, ні мэты.

Крыўды былой карані і карчы
Каму карчаваць цікава?
Коркам гаркавым жыццё гарчыць,
Як жалудовая кава.

Ды раптам дачушка —
Вясны сувязны
Зрывае тугі фіранкі:
«Тата, а заўтра ў цябе выхадны?
Гайда па пралескі ўранку».

* * *

Маладзік — сталёвая падкова,
Што за дзіўны конь цябе згубіў?
Любая! Зусім невыпадкова
Я сустрэў цябе і палюбіў.

Бабылём блукаючы па свеце,
Беспрытульным быў я між людзей.
Змрочнымі начамі, на дасвецці
Па табе я вочы праглядзеў.

У жыццёвай тлумнай крутаверці
Зведаў я спагаду і ману.
Я пазнаў цану жыцця і смерці
І кахання сталую цану.

І калі знямогся канчаткова,
Ты прыйшла.
Развідніўся туман.
Маладзік —
Сталёвая падкова,
На сасне вісеў, як талісман...

* * *

Паміж Вілейкай і Лагойскам —
Па сорак вёрст у два бакі
Стаіць маленечкая вёска,
Дзе хаткі, як баравікі.

Чужому воку непрыкметная,
Лясны няведамы куток.
А мне, як песня запаветная,
Мой першы крык,
Мой першы крок.

Адтуль з драўлянаю валіскай
Пайшоў я ў свет.
За тры рублі
(Старымі грошамі) да Мінска
Мяне на дровах прывязлі.

Пакуль дапяў на Камароўку,
Зрабіў я, пэўна, не вярсту.
І сундучок свой, як пуцёўку,
Нёс урачыста ў інстытут.

Дала драўляная валіска,
Пашарпаная на баку,
Білет студэнцкі і прапіску
Як першаму прадстаўніку

Няведамай маленькай вёскі,
Дзе хаткі, як баравікі,
Паміж Вілейкай і Лагойскам
Па сорак вёрст у два бакі.

* * *

Быццам ліхой варажбой,
Мне вобраз быў твой наварожаны.
І зноў я жыву растрывожаны,
Не ў ладзе з самім сабой.

Паставіць апошнюю кропку
Спрабую і не магу.
І сам ад сябе бягу
Хадой баязлівай таропка.

* * *

Ты на мяне не злуйся,
Я ж тут зусім не павінен.
Віной усяму тут, мусіць,
Колер вачэй тваіх сіні.
Ты на мяне не злуйся.

Я ж тут зусім не павінен,
Што ёсць ты на свеце такая,
Што ў сэрцы агонь не стыне,
Што вельмі цябе кахаю.
Я ж тут зусім не павінен.

Віной усяму тут, мусіць,
Першае наша спатканне.
Мне пачуццё не схлусіць:
Летняе тое змярканне
Віной усяму тут, мусіць.

Колер вачэй тваіх сіні,
Як неба пасля навальніцы.
Не мелі такога багіні.
Мне кожную ноч ён сніцца,
Колер вачэй тваіх сіні.

Ты на мяне не злуйся,
Я ж тут зусім не павінен,
Віной усяму тут, мусіць,
Колер вачэй тваіх сіні.
Ты на мяне не злуйся.

* * *

Запівалі бярозавым сокам
Самаробныя шашлыкі.
Мякка гойдаліся паплаўкі,
І ніводнай душы навокал.

Нерухома стаяла рака
Ды тулілася ціха да берага.
Пачала ты мне наракаць:
«Нешта горкім зрабіўся б’рка[2]».

Ах ты, барка... Ах, шашлыкі...
Ах, няўдалыя пачастункі...
Я не ведаў, што горыч такі
Трэба з вуснаў здымаць пацалункам.

---

[2] Б э р к а — так на Віцебшчыне называюць бярозавы сок.

* * *

А ты ідзеш — уся ў снягу.
І ўсё навокал бела-бела.
Я запыніўся, як здранцвелы,
Паварухнуцца не магу.

Ты, пэўна, з казкі, ну, няйначай,
Сышла са снегам да людзей.
Праходзіш і мяне не бачыш...
І ты ідзеш,
І снег ідзе...

* * *

Гарыць касцёр. Патрэсквае вуголле.
Вакол нас ноч, як чорная сцяна.
Заснула ўсё: і лес, і луг, і поле.
Галінка не кранецца ні адна.

Вакол нас ноч. Дзень адгарэў і згінуў.
Ты марыш ці заснула ў цішыні?
Апошні корчык я ў касцёр падкінуў.
Слязой празрыстай плача на агні...

**МАЁ ПАКАЛЕННЕ**

Гэта маё пакаленне —
Я родам таксама з трыццатых,
Адкуль ідзе папаўненне
Радзімы сыноў крылатых.

Дзяцінства наша хлапечае
Вайною было апалена,
Асколкамі пакалечана,
Руінамі пазавалена.

Застаўшыся рана сіротамі,
Мы песні бацькоўскія пелі,
Фарсілі стаптанымі ботамі
І хлеб з лебядою елі.

Не плакалі і не хваліліся,
Што надзвычайнае вынеслі.
Гулялі ў вайну, вучыліся
І неўзаметку выраслі.

Потым пісалі ў анкетах:
«Не маю. Не быў. Не ўдзельнічаў»
А ўжо нас чакалі планеты,
Будзённеў космас у велічы.

Ракетныя нашы подпісы,
Як сцяг, над сусветам узняты.
Сёння валодае космасам
Маё пакаленне —
З трыццатых!

* * *

Зноў у мяне бяссонніца,
Зноў да світання не сплю.
Сэрца трывогаю поўніцца:
Ці так сваю справу раблю?

І думак прысмак гаркавы
Не знікае ў салодкім сне.
Людскія турботы і справы
Не пакідаюць мяне.

* * *

Няма ні адчаю, ні злосці,
Што шчасця мне мала адмерана.
Нікому, нікому зайздросціць
І сёння не маю намеру.

І ўзлёты былі, і зрывы,
І сонца, і непагода.
Да скону буду шчаслівы
Шчасцем свайго народа.

* * *

У чэрвені ноч кароткая,
        Бы ўзмах вясла.
Куды ж ты, свавольніца-лодка,
        Нас занясла?

Хвалі да берага туляцца,
        Вярба рыпіць.
Маці дома хвалюецца,
        Праз ноч не спіць.

Спавітая белым туманам,
        Рака не цячэ...
Хораша мне, каханы!
        Цалуй яшчэ...

* * *

Як кот, замурзаны, рыжы,
З коміна дым палез.
Станем хутчэй на лыжы
І рушым у лес.

Хораша там уранку
Срэбра гарыць на галлі.
Мо знойдзем тую палянку,
Дзе летась былі?

За сонным бярозавым гаем
Скрыжуюцца нашы сляды.
Ты скажаш мне ціха: «Кахаю»
Зусім, як тады.

* * *

Ідзе паласа удач —
Збываецца ўсё, што захочацца.
І шчасця стракаты мяч
Проста ў рукі коціцца.

Схапіць бы хутчэй калабок —
Ды працаю рукі заняты.
Лупцую нагою пад бок,
І коціцца прэч стракаты.

І аддаляецца ўскач,
Не зведаўшы узаемнасці.
Прайшла паласа удач,
Паўзуць з-за вуглоў непрыемнасці.

* * *

Мы ўзрост яшчэ не адчуваем
І ўпотай ганарымся сілай.
А мне надоечы ў трамваі
Дзяўчына месца саступіла.

Збянтэжыўся ўвесь, бедалага,
Не мог дадумацца адразу:
Што гэта — шчырая павага
Ці вельмі тонкая абраза?

Раз-пораз грукаліся дзверы,
І сонца ззяла, быццам звала,
А я стаяў у недаверы,
І побач месца пуставала.

* * *

З неба манкавы дождж не ідзе.
Бог бяднейшы, чым я, бадай.
Усё, што ёсць у мяне, ад людзей,
Усё ад іх — і дабро, і бяда.

Важкасць слова і важнасць падзей,
Чым жыву я і што кляну —
Ад людзей усё, ад людзей,
Ні ўсміхнуцца без іх, ні ўздыхнуць.

І цяпер, калі ўсё радзей
Мне ўсмешка зыходзіць на твар,
Я лаўлю настроі людзей
Так, як хвалі ловіць радар.

* * *

Ані на цябе не ў крыўдзе
За тое, што не збылося.
Вясна адцвіла, але прыйдзе
Яшчэ залатая восень.

Птушкі пацягнуцца ў вырай,
І звонкае лісце пакоціцца.
Тады я прыйду і вырву
Цябе з твайго адзіноцтва.

Мелодыю песні пачуем,
Што намі была недапета.
Пажарам густым забушуе
Пад вокнамі бабіна лета.

## ПЕРШАЕ ПАСЛЯВАЕННАЕ

Мы роўныя ў самым галоўным,
Мы рознімся толькі ў дэталях:
Усе мы ў гады галодныя
З вайны, як грыбы, выраслі.

З вайны не выходзяць цэленькімі,
Здаровымі і ружоватварымі.
Не пішам сябе ўдзельнікамі,
Не лічым сябе ахвярамі.

Праўда, душу трывожную
Не ўтаймаваць з узростам.
Мы ў крытыцы неасцярожныя,
Мы ў дружбе — душа наросхрыст.

За наша маленства хмарнае
Адна дарагая выплата ёсць:
Мы — пакаленне Гагарына,
Руплівае і крылатае.

* * *

Няўмольны час вас не скарыў,
Хоць сёння вы ўжо ветэраны,
Франтавікі і партызаны,
Мае старэйшыя сябры.

Найменш паўвека пражылі,
Не пастарэлі — памудрэлі,
І часу важкія арэлі
Вас у зеніт жыцця ўзняслі.

Вам бачны з гэтай вышыні
Шляхі і зоркі абеліскаў,
І маладосць здаецца блізкай,
Уся ў нястушаным агні...

* * *

Ветэран гаворыць перад моладдзю,
Свеціць памяць — вогненны экран:
Ён ляжыць знясілены на холадзе,
Памірае ад смяротных ран.

Памірае цвёрда, незваротна
На балотнай мокрай дзеразе.
Зрэзаны чаргою кулямётнай,
Бачыць сам, як смерць яго паўзе.

Сіл хапае толькі змацярыцца,
Болю й горкай крыўды — цераз край.
Цягне узмакрэлая сястрыца
Хлопца з пекла ў медсанбацкі рай...

Цень былых пакут прабег па твары.
Ветэран замоўк, каб боль ачах.
Ён у зале раптам бачыць пару
З бестурботным шчасцем у вачах.

І да чэрствасці звышадчувальны,
Сам сябе спытаў: «А вось яны?..»
Сам і адказаў: «Усё нармальна,
Мы былі такія ж да вайны».

## ГАРМОНІК

Іграе нехта на гармоніку
На ўвесь начны мікрараён.
Змяняе польку на «Лявоніху»
І на «златыя горы» ён.

Ідзе кампанія падлітая
Ці з наваселля, ці з гасцей,
І музыка амаль забытая
З пашарпаных мяхоў расце.

Лунае птушкай над «панелямі»,
І заліхвацкі гэты ўзлёт —
Нам як дакор, што распанелі мы
Ў палоне гарадскіх даброт.

«Калі б я меў златыя горы...»
Ці ў памяці той час у вас,
Як забываліся пра гора
Удовы вось пад гэты вальс?

І як падлеткі-падшыванцы,
Што сталі сталымі ў вайну,
Рабілі вечарынкі-танцы,
Лучыну ўторкнуўшы ў сцяну?

І я між іх удзельнік пільны,
Пакуль да полькі не дарос,
Павінен быў мяняць «свяцільнік»,
Нагаркі з той лучыны трос.

...Дзяўчына пад гармонік войкне
І патрапляе ў лад яму.
І людзі адчыняюць вокны,
Як сябру добраму свайму.

* * *

Нястомна ткуць майстрыцы дываны,
Зямныя цуды ўвачавідкі твораць.
Я чуў: найпрыгажэйшыя узоры
Прыходзяць ім у ранішнія сны.

Як быццам птушка ў фортку заляціць,
І, ўсхваляваныя, адкінуўшы дрымоту,
Яны адразачку бяруцца за работу,
Каб бачанае дзіва не ўпусціць.

І пад яшчэ няўпэўненай рукой
Штрых за штрыхом узоры узнікаюць,
Сваёй дзівоснасцю сумненне выклікаюць,
І радасць, і душэўны неспакой.

Майстрыцы ткуць — сам не прыходзіць плён
Баліць спіна і зацякаюць ногі.
А ноччу не пазбавіцца трывогі,
Ці заляціць зноў птушка ў іхні сон.

* * *

Шэсць кіламетраў ад шашы,
А ад райцэнтра цэлых ...наццаць.
Ужо у восем — ні душы,
У дзевяць — сны бабулям сняцца.

Між гэтых непазбежных сноў
Адзіны ёсць аб родных дзецях.
Пра сталых дочак і сыноў,
Што разляцеліся па свеце.

Далёка ўсе яны,
Бабуль
Не радуе ні брук, ні крама.
Усё здаецца ім: адтуль
Пакліча родны голас: «Мама!»

**ДЗЕД**

Адбыў апошнюю радоўку
Учора ў полі дзед Рыгор.
Паставіў пугу у кладоўку,
Сеў, павячэраў — і памёр.

Ніхто над дзедам не галосіць,
Аджыў сваё на свеце дзед.
А што ад дзеда засталося?
Які яго жыццёвы след?

Ватоўка, гумавыя боты,
Абротка, каб каня вуздаць,
Ды тыя розныя работы,
Якім канчатку не відаць.

Прыйшлі суседзі, добрым словам
Пашану дзеду аддалі.
Гарэлі на касцюме новым
Тры партызанскіх медалі.

* * *

Я зведаў шляхі крамяністыя
І горыч бяды-палыну.
Крыўды мае асабістыя
Я ўпотайкі праглыну.

Хай сэрца рвецца на часткі —
Прымушу яго не крычаць.
І толькі ў чужым няшчасці
Ніяк не змагу маўчаць.

* * *

Хацеў бы я мецъ усталёваны
Хітры такі аўтамацік,
Каб сэрца маё ўсхвалёвана
Білася толькі у шчасці.

Згрызотную ж інфармацыю
Няхай бы яно не лавіла,
А ў роўнай няспешнай працы
Тахкала б на паўсілы.

І толькі б калі ў паняверцы
Я праўду змяніў на выгоду,
Няхай бы тады маё сэрца
Вырубілася назаўсёды.

* * *

Жывеш... І раптам, як укол:
Больш як палова за плячамі.
Зусім інакшымі вачамі
Глядзіш на ўсё, што навакол.

Віну, забытую даўно,
Прыпомніш выпукла і рэзка.
Малая кветачка пралеска
Мацней захмеліць, чым віно.

Не забурчыш на маладосць
Старэчае: «І што за дзеці...»
Даволі мудры, каб прыкмеціць,
Што ў іх цябе часцінка ёсць.

* * *

Усё, што зроблена, не прападзе.
Жыццё аплоціць кожны твой учынак.
Ці радасцю раптоўнай беспрычыннай,
Ці шчыраю падтрымкаю ў бядзе.

І на благое свой вядзецца ўлік.
Жыццё напал залішні твой астудзіць.
І закрычыш ты: «Мне самотна, людзі!»
Але ніхто твой не пачуе крык.

* * *

Ці будзе такое, ці будзе?
Ніяк мне спакою няма.
Хачу, каб сказалі людзі:
«Ён жыў на зямлі недарма.

Хоць быў чалавекам нягучным,
Не вельмі прыкметным быў,
Справу, якая даручана,
Сумленна і шчыра рабіў.

І думкай сябе хоць не цешыў,
Што песняю выб'ецца ўверх,
Пісаў, небарака, вершы.
Даруем яму гэты грэх».

* * *

Рана яшчэ бабкі падбіваць,
Рана падсумоўваць успаміны.
Не адну яшчэ зіму павінны
Мы з табою перазімаваць.

Мы не гэткі ведалі мароз,
Ведалі чужых вуглоў няўтульнасць.
Ці не ты казала мне прачулена,
Што галоўнае — не вешаць нос?

Так і занясём у пратакол:
Ёсць у перспектыве многа вёсен.
І не старасць нам прыносіць восень
Аж трашчыць ад радасці прыпол.

* * *

Край мой, лёсам не вельмі пешчаны,
Край смаліста-духмяны, лясны!
Край гасцінны, мая Вілейшчына!
Абдымі мяне — я твой сын.

Як табе без мяне жылося?
Раскажы мне, мой край, пра ўсіх.
Пра Захарку і цётку Зосю,
Пра Ляксеіх і Кастусіх.

Заўтра раніцай я паеду,
(Ацерушыўшы расінкі з вачэй.
Любы край мой! Цябе я праведаў,
І на сэрцы стала лягчэй.

* * *

Ноч таямніча-нямая,
Усё патанула ў цішы.
Здаецца, планета не мае
Жывой аніводнай душы.

Дзень адсмяяўся, адплакаў
І адышоў на спакой.
Льецца з бяздоннага гляка
Зоркавае малако.

У гэтым бяскрайнім разводдзі,
Заплюшчыўшы вочы, ляціш.
Няўжо яшчэ ў нашым стагоддзі
Бывае гэткая ціш?

* * *

Пасыпаўся дождж, прышпарыў,
Бы зерне з сялянскай рукі.
Па вуліцах і тратуарах
Звіняць ужо ручайкі.

Імклівa, многагалоса
Удаль яны паплылі.
Разуцца б цяпер ды босым
Імчацца на край зямлі...

* * *

Дзе б ні ехаў, зблізку ці здалёк,
У найэкзатычнейшай прыродзе
Беларускі жытні васілёк
З памяці ніколі не выходзіў.

* * *

Курацъ падлеткі. Дзяўчаты малююцца.
Учынкі грубыя, а мары ўзнёслыя.
Не пагаджаюцца, моўчкі хвалююцца.
Хочацца вельмі хутчэй стаць дарослымі.

Хочацца сталасці. Час ускладняецца.
Плынь інфармацыі коціцца густа.
Не дазваляецца. Забараняецца.
Кахаць да шаснаццаці, што за распуста?

Мы ў гэтым узросце гулялі ў класікі,
Мы ў гэтым узросце ганялі ў поле.
Раней яшчэ, праўда, засведчылі класікі,
Што ў гэтым узросце... а мы не дазволім.

Бо толькі дазволь ды ствары ім умовы —
Кніжкі заменяць на гулі-ўцехі.
А нам, выхавацелям, шпарацъ вымову,
За недагляд даюць на арэхі.

Век паслушэнства ніяк не ўсталюецца,
Сэрцы імкнуцца кудысьці няўтолена.
Курацъ падлеткі. Дзяўчаты малююцца
І, пэўна ж, кахаюць, хоць не дазволена...

* * *

І там быў я — у старане,
Дзе ні сястры і ні матулі,
Дзе не суцешаць, не прытуляць,
Дзе нават горкі боль у сне.

Дзе ні суседзяў, ні радні,
Дзе ні сяброў і ні сяброўак,
Дзе факт, ты хворы ці здаровы,
Нікога не кране ані.

Дзе ні бярозы, ні сасны,
Дзе сонца без ахвоты свеціць,
Дзе брыдка завывае вецер
Або рагоча, як п'яны.

Лепш не пытай, дзе гэты край,
У нашай ці ў чужой краіне.
Калі каханая пакіне,
Тады ты там. Хоць памірай.

* * *

Блакітнаю вясной, ружоватварым летам,
Блукаючы з каханай ля ракі,
Як я зайздросціў некалі паэтам,
Што словы плесці ўмеюць у вянкі.

Цяпер я сам стракатыя радкі
Пляту паціху без вялікай радасці.
І юнакам зайздрошчу чорнай зайздрасцю,
Тым, што з каханымі блукаюць ля ракі.

* * *

Апала раса на траву,
На сцежкі і лугавіны.
Панурыўшы галаву,
Дрэмле над намі яліна.

У кроне яе вецярок
Прыцішыўся да світання.
Усхліпвае наш касцярок,
Міргае на развітанне.

Бывай жа, цяпельца, бывай.
Табою мы добра сагрэты.
Ноч верная, не выдавай
Нікому нашы сакрэты.

* * *

Не нахабны і не распусны,
Не бадзяга, гуляка які.
Прытулю, зацалую ў вусны —
Гэтай стрэчы чакаў я вякі.

Захлынуся, не стане дыхання,
Чорнай зробіцца зорка ў акне...
Людзям скажаш: «Памёр ад кахання,
Ён знямогся чакаць мяне...»

* * *

Мігцелі зоркі, быццам светлякі,
І рэчка ціха маладзік люляла.
Ты не баялася маёй рукі,
Ёй недазволенае дазваляла.

Здавалася: ўвесь свет негаваркі
Быў у палоне гэтага мігцення.
І месяц сплыў пад корч у лазнякі,
І запынілася імгненне.

* * *

Незямное казачнае цела,
Ветрыкам прыгнанае здалёк,
У трамвай сняжынка заляцела,
Белая пушынка, матылёк.

Тлумная вагонная гаворка,
Што гула на розных галасах,
Раптам сціхла. Дагарала зорка
У дзяўчыны ў русых валасах.

**ІНТЭРНАТЫ**

Не жывецца ў мамы і таты,
Штось трывожыць часцей і часцей.
Інтэрнаты — казённыя хаты
Сустракаюць блудных дзяцей.

Ні аб чым шкадаваць не варта —
Хай былое быллём парасце.
Камендант забірае пашпарт,
Выдае квіток на пасцель.

Атрымоўвай свае прасціны,
Задаволены будзь сабой!
Засыпаць цяпер будзеш пад гімны
І ўставаць пад курантавы бой.

Ёсць дзе выспацца, ёсць дзе памыцца,
Паплывуць за працай дзянькі.
А начамі ўсё будзе сніцца
Дотык мамінай цёплай рукі.

* * *

Ужо не адраблюся смехам,
Што выпраўлюся — малады.
Рассыпаліся бульбай з меха,
Не бачыў як, мае гады.

Лёс выдзеліў мне
Мех дзіравы,
Сам расшмаргнуўся вузялок.
Забавы — справа,
Злева — справы,
Паловы як і не было.

Цяпер стаю на паўдарозе,
З сябе самога смех і грэх.
Якое ж глупства я змарозіў,
Узяўшыся за гэты мех!

**ДЗЕНЬ**

Я дзень пражыў, а верш не напісаў,
Сябе за гэта строга дакараю.
Ці справядліва ж я сябе караю,
Мо я без справы дзень той прагайсаў?

Не, спраў было, як кажуць, «па гарла»,
Яшчэ на досвітку я выскачыў з пасцелі,
Кароў жанчыны выгнаць не паспелі,
І вуліца пустыннаю была.

У галаве ўжо выспяваў радок:
«Як хораша на досвітку ў калгасе...»
Я і паперы стосік прызапасіў,
Ды ў хату брыгадзір: «Ох, выручай, браток!

Патрэбна сіла, ты мяне прабач.
Гляджу: начальнік не слабы мужчына.
Цялят, ці бачыш, грузім на машыну,
Людзей жа не хапае, хоць заплач».

«Начальніка» я моўчкі праглынуў,
Але і гонар: слабым не прызналі.
Сучасна адказаў:
«Ну што ж, стары, пагналі!»
І ў бок яго па-свойску падштурхнуў.

Пайшло-паехала. Як быццам на бяду,
То там, то тут кагосьці не хапала.
Там грузяць лён — патрэбны падавала,
Даяркі просяць: «Прывязі ваду».
Кароўнік уцяпляць — зіма не за гарой —
Бяры падводу — нагружай салому.
Нялёгка ногі я цягнуў дадому
Лірычнаю вячэрняю парой.
Верш не пісаў, на ложак ледзь узлез,
Але аб тым ніколі не шкадую.
Даюць напарніцу мне заўтра маладую,
Паедзем з ёю секчы жэрдкі ў лес.

* * *

Дарадцам я заўсёды рады,
Як бульбіне да селядца.
Я іх каштоўныя парады
Гатовы слухаць без канца.

Ім згодна галавой ківаю,
Іх слова кожнае лаўлю.
Я што, дурнейшы ад трамвая?
Ну, пэўна ж, так я і зраблю.

Мне даланю дарадцы ціснуць,
Ласкава менцяць па спіне.
Ад асалоды вушы віснуць
У разамлелага мяне.

З адкрытым ротам і пад потам
Стаю. А як закрыю рот,
Крыху падумаю, то потым
Усё зраблю наадварот.

## КЛАСНЫЯ КІРАЎНІКІ

Настаўнікі, класныя кіраўнікі,
Якое цудоўнае званне!
Нястомныя нашы працаўнікі
Прасветніцтва і выхавання.

Лірычна жывём, недагледжана,
Харч наш — катлета з буфета.
Лекцыі ды паседжанні,
Сходы і педсаветы.

Залы запоўнім чынненька,
Мы слухаць даклады аматары.
А вечарам мы — дружыннікі,
Дарадцы і агітатары.

Размову вядзём нялёгкую
І з дзеткамі, і з бацькамі.
Там з мацяркамі павохкаем,
Там развядзём рукамі.

Няхітрыя дыялогі...
Глянеш — нябачна работы.
На фронце ідэалогіі
Выконваем ролю пяхоты.

Такія мы, класныя кіраўнікі.
Бяжым, паспяваем за часам.
Мы — кроўныя дзеці і прадстаўнікі
Нашых вялікіх класаў.

## ПАСЛЯ СПАТКАННЯ

Вярнулася дамоў апоўначы,
Свой страх, як птушку, несучы,
І ля дзвярэй з адчаем стоячы,
Знайсці ўсё не магла ключы.

І дзверы ўсё не адмыкаліся,
А ў галаве быў дзіўны звон.
Прамовіў бацька: «Дачакаліся...»,
А маці, выдыхнуўшы стогн,
Забегала, замітусілася,
Прыдумаць кару не магла.
«Ты ж на гадзінку адпрасілася,
А дзе ж да поўначы была?»

Яна ж маўчала, як зацятая,
А бацька кпіў: «Сакрэт... Маўчым...»
Хоць разумела: вінаватая,
І ўсё ж не ведала, а ў чым.

Бо ў справядлівым хатнім ляманце
Ласкава хлопец паўставаў.
Ніяк не вылятала з памяці,
Як ён ёй рукі цалаваў.

* * *

Я цябе сваёй не назаву —
Гэта прагучала б недарэчна.
Павалюся ў росную траву,
Буду дзівавацца Шляхам Млечным.

І тваё дыханне ля шчакі
Я адчую, як сваё уласнае.
Гнуткія, як лозы, дзве рукі,
І вачэй дзве зорачкі нязгасныя —

Будзе ўсё маё, усё, што ёсць,
Ад нябёс да плачу перапёлкі,
І зары вячэрняй прыгажосць,
І світальны першы ветрык золкі.

Толькі снег, што ўсыпаў галаву,
Мне напомніць пра закон адвечны…
Я цябе сваёй не назаву.
Гэта б прагучала недарэчна.

* * *

З маладосці ружовай, здалёк,
З папялішча пад назвай «час»
Залаценечкі вугалёк
Твайго вобраза не пагас.

Сэрца ў буру няма чым прыкрыць.
А вятры ў самым шале яшчэ,
Тым зырчэй вугалёк гарыць,
Тым мацней мне душу пячэ.

**ПРЫЗНАЙСЯ!**

Я ганаруся тым, што ты мяне кахала.
Няхай каханне наша ў забыццё сплыло.
Няхай згарэла ўсё і ў памяці прапала,
Але ж яно было... было, было, было.

Няхай жыццё маё і склалася няўдала,
Цябе ж да шчасця, кажуць, сцежкі прывялі.
Я ганаруся тым, што ты мяне кахала.
А ты ці думаеш пра тое хоць калі?

Прызнайся!

* * *

Мне позна славу даганяць —
Дыханне ўжо не тое.
На дробязі б не размяняць
Галоўнае, святое.

* * *

Шоргае, дзынькае, ляскае,
То сцішыцца, то ўздыхае.
Гномік з далёкай казкі
Ноччу ля вокан блукае.

Раніцай лёд на лужыне
Нажом разане па сэрцы:
Гэта ж вясна ад сцюжы
Прасілася ў дом пагрэцца.

* * *

Хопіць гарбець за сталом,
Паэзіі добраахвотнік!
Лапату бяры альбо лом,
Бачыш, за кожным вуглом
Вясенні гудзе суботнік.

Аж запыніўся трамвай,
Дзынькае з перапуду.
Не пазяхай, брат, давай
Смецце ў кучы зграбай.
Зямлю ачышчай ад бруду.

На самазвалы валі
Скарбы зімовай сцюжы.
Каб плечы ад стомы гулі,
Каб вечарам мазалі
Цвілі на руках, як ружы.

А як разагнеш спіну,
Адчуеш, як жыць прыемна.
Зноў можаш шчыпаць струну
І вершы складаць пра вясну
З нязведаных слоў патаемных.

* * *

Празрысты змест, як чыстая вада,
Як свежы хлеб, што ў жываце не рэжа.
Плач, чалавек, калі прыйшла бяда,
І ў шчасці весяліся як належыць.

Будзь, чалавек, самім сабой заўжды.
Будзь чалавекам, сябра мой, паэце.
Люблю напіцца чыстае вады.
Больш газіроўку любяць дзеці.

## А ШТО ЗА ТЫМІ ПЕРАВАЛАМІ?

Калі рашуча парывалі мы
З жытлом утульным і цяплом,
А што за тымі пераваламі? —
Душу трывожную пякло.

І мы ішлі, падлеткі горкія,
У свет ад роднага двара.
За пераваламі і горкамі
Чакала новая гара.

Зайздроснікі нас не сурочылі,
Руку працягвалі сябры.
І ані разу мы не збочылі,
Каб абысці вакол гары.

Мы сталі мудрымі і сталымі,
Ужо не грэшна б адпачыць.
«А што за тымі пераваламі?» —
У сэрцы, як пароль, гучыць.

* * *

Я нямею — зусім не ўмею
Гаварыць пра пачуцці свае.
Ды Радзіма без слоў разумее,
З чым прыходзіш ты да яе.

Ці з гулянкі прыйду, ці з бойкі,
Ці здарожаны, ў мазалях —
Паўшчувае, падзьме на болькі,
Зноў ласкава праводзіць у шлях.

## ПРЫБЯГУ

Прыбягу да цябе — напрасткі, нацянькі,
Праз лясы, дзе пазёмкі, суніцы,
Дзе рудзеюць лабата баравікі,
Дзе расчулена шэпчуць крыніцы.

Прыбягу да цябе — напрасткі, нацянькі,
Праз духмяную квецень палянак,
Дзе засохлі дубы, дзе лысеюць пянькі,
Дзе сляды партызанскіх зямлянак.

Прыбягу да цябе — напрасткі, нацянькі,
Праз палі, дзе жыты, канюшыны,
Дзе бульбоўнік, і ржонне, і асцюкі,
Дзе пагоркі, лугі і лагчыны.

Прыбягу да цябе — напрасткі, нацянькі,
Праз шляхі, дзе віхура і сонейка,
Дзе гасцінцы усе і усе бальшакі
Сцерагуць вартавыя — помнікі.

Прыбягу, дзе б ні быў, напрасткі, нацянькі,
Ці шчаслівы, ці ў немачнай скрусе.
Прыпаду да зямлі, да пяшчотнай шчакі
Маці роднай маёй — Беларусі.

* * *

Бачу часта цябе я у сне,
Быццам нешта пяшчотна гаворачы,
Абдымаеш, цалуеш мяне,
Прытуляешся смела і горача.

Прачынаюся. Мой пакой
Пасвятлелымі вокнамі шэрыцца.
Ну, няўжо ты бываеш такой?
Аж самому сабе не верыцца.

* * *

Сабяру я свае блакноты
І паеду на лета туды,
Дзе над сажалкай смягнуць чароты,
Дзе над полем гудуць правады.

Дзе старэнькая маці чакае,
Ночкай кожнаю бачыць у сне,
Сарамліва прыезджых пытае:
«Можа, нашага бачылі, не?»

Я прыйду, будзе ранак ці вечар,
Захлыне пах лугоў ці раллі,
Я, глытаючы слёзы сустрэчы,
Прыпаду да бацькоўскай зямлі.

* * *

Дай мне сілы, жыццё,
Загаіць, залячыць свае раны.
Быў табой я люляны й караны,
Дай забыцца пра ўсё.

Загаі ж гэты боль.
Ані ў чым не хачу паўтарацца.
Толькі дай ты мне сілы на працу,
Размахнуцца дазволь.

**ЗМЕСТ**

*** Ужо не адраблюся смехам
Дзень
*** Дарадцам я заўсёды рады
Класныя кіраўнікі
Пасля спаткання
*** Я цябе сваёй не назаву
*** З маладосці ружовай, здалёк
Прызнайся!
*** Мне позна славу даганяць
*** Шоргае, дзынькае, ляскае
*** Хопіць гарбець за сталом
*** Празрысты змест, як чыстая вада
А што за тымі переваламі?
*** Я нямею — зусім не ўмею
Прыбягу
*** Бачу часта цябе я у сне
*** Сабяру я свае блакноты
*** Дай мне сілы, жыццё

**Папковіч Ул.**

На досвітку: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1978.— 112 с.— (Першая кніга паэта).

На досвітку звычайна ўсё бачыцца найбольш акрэслена — і мінулае, і дзень наступны.
Уладзіміру Папковічу ёсць што ўспомніць: партызанскае маленства, пасляваенная сяўба, гады вучобы і працы. Сённяшні дзень паэт ведае дакладна і канкрэтна, бо ён на пярэднім краі жыцця.
Інтымная лірыка Уладзіміра Папковіча чыстая і непасрэдная.